зварот старое належнасьці; выкуп за векавую крыўду.

Работніцка-сялянскі саюз павінен парваць ваенныя саюзы з імпэрыялістычнымі Францыяй і Румыніяй саюзы, якія вядуць да новых ваенных бойняў і заместа гэтага павінен зрабіць самы цесны саюз і завязаць гаспадарчыя зносіны з Саюзам Сацыялістычных Радавых Рэспублік.

Але гэта яшчэ ня ўсё. Зьезд павінен выразна сказаць, якім шляхам будзе імкнуцца да ўвядзеньня работніцка-сялянскага ўраду і здабыцьця зямлі для сялян. Здарэньні робяць палажэньне падобным да 1918 г. і трэба старацца, каб не зрабіць тых самых памылак. I тады, калі заваліўся царызм і царскія троны Аўстрыі і Нямеччыны, стала пытаньне, хто будзе правіць у незалежнай Польшчы, да каго будзе належаць зямля, ад веку палітая потам і крывёю селяніна. Усплыў лёзунг работніцка-сялянскага ўраду, утварыўся ўрад, які назваў сябе народным і абяцаў бараніць інтарэсы народу. Але ўрад гэты бачыў толькі адзін шлях: вырашэньня праз соймавыя пастановы, баяўся адкрытай аружнай барацьбы з жменяй эксплёататараў. Гэты ўрад ня даў зружжа сялянам і работнікам, але ўтварыў войска пад кіраўніцтвам афіцэраў, панскіх сыноў і заграничных генаралаў, гэтым самым даў буржуазіі сілу проціў народу і ўрэшце сам дабравольна адыйшоў, аддаўшы ўладу ў рукі буржуазіі і шляхты. А тады ж можна было пазбавіць уласнасьці паноў, бо ня было сілы, якую-б можна было гэтаму праціваставіць, але ўгадовыя правадыры ня мелі адвагі на рашучую барацьбу, а народ, змучаны шматгадовай імпэрыялістычнай вайной, паслухаў іх.

Цяпер пасьля таго, што сталася ў Кракаве ў пачатку лістапада, кожны селянін і работнік павінен ясна бачыць шлях, які вядзе да перамогі. Жаўнеры, сялянскія сыны, якія не хацелі праліваць работніцкай крыві, але пабраталіся з забастаўшымі работнікамі і аддалі ў іх рукі аружжа, далі прыклад, як можна стварэць сілу, перад якой павінна ўступіць буржуазія і шляхта. Узбраеньне работнікаў і сялян для барацьбы з панамі і разаружэньне буржуазіі павінна зрабіцца Вашым лёзунгам. Толькі сілаю можаце вырваць ад Вашых ворагаў зямлю і ўладу...

Прэзыдыум Міжнароднай Сялянскай Рады подпісы).

Гэтая адозва—кажа далей „Rzeczpospolita“—павінна быць для Wyzwolenia і Jedności Ludowej паважнай перасьцярогай.

Бальшавікі лічаць работу гэтых групаў за братнюю і зьбліжаную да іх лёзунгаў і да іх дзейнасьці, каб вітаць іх як саюзьнікаў, радзіць наперад зваліць сучасны ўрад, вытыкаць палітыку недаверыя да Радавай Расеі і саюз з Францыяй і Румыніяй, заахвочваць да разаружэньня, радзіць да захвату зямлі гвалтам, паказваць шлях да збунтаваньня войска і перавароту, як адзіны адпаведны шлях.

Партыя Wyzwolenie і Jedność Ludowa тым больш павінны застанавіцца над гэтымі бальшавіцкімі прапазыцыямі, што якраз у духу найважнейшай рады з Масквы зьяўляецца пастанова Зьезду Wyzw. і Jedn. Ludowej 25-га гэт. м.

„... Жадаем, як найхутчэйшай адстаўкі сучаснага ўраду... Жадаем утварэньня дэмакратычнага сялянска-работніцкага ўраду“...

Наскрозь рэвалюцыйная дзейнасьць у апошнія часы гэтых групаў будзіць у Маскве надзеі, якія павінны быць перасьцярогаю для больш цьвярозых элемэнтаў гэтага лагеру“.

# П'янства у Польшчы і шпітальніцтва.

Ува усей Польшчы істнуе 12.000 з лішнім рэстаранаў з прадажай усякага віду сьпірытусовых вырабаў і некалькі дзесяткаў тысяч sklepów, дзе прадаецца розная гарэлка. Міністэрства Скарбу, накладаючы вялікі акцыз на сьпірытусовыя вырабы, намагаецца коштам ап'яняваньня народу папраўіць скарб Дзяржавы. Калісь-то на „п'яным буджэце“ царская Расея ўмацоўвала сваю валюту. П'юць цяпер больш як перад вайной, але нешта ня чутно аб паправе скарбу; наадварот, з кожны днём польская марка ляціць уніз.

Урадовыя шпіталі дагэтуль утрымліваліся коштам цэнтральнага Скарбу. Цяпер ў мэтах ашчаднасьці правіцовай большасьцю ў Сойме пастаноўлена ужо зьліквідаваць Міністэрства Публічнага Здароўя і сярод правіцы пануе пераконаньне, каб выдаткі на ўсе інстытуцыі, якія дбаюць аб ахове здароўя насяленьня і якія ўтрымліваліся Урадам, былі перанесены на кошт самаурадаў—гмінных, павятовых і вояводзкіх. Як крыніцу даходаў для самаўрадаў на ўтрыманьне шпіталяў бачаць яны ў маючых быць павялічанымі падатках на пашырыўшаеся цяпер шынкарства.

Праўда—цікавая лёгіка. Дзе ні глянь — усё restauracji ды sklepy wódek, п'янства шырокай ракой разьлілося па ўсяму краю, а калі чалавек ад п'янства пачынае хварэць, дык яго на тыя 3% ад акцызу на выпітую ім гарэлку будуць лячыць ў публічных шпіталях. Калі ўжо ісьці шляхам цывілізаваных дзяржаваў, якой хоча лічыць сябе і Польшча, дык трэ было-б даўно забараніць выраб і прадажу ўсякіх „wódek“, як даўно ўжо зрабілі гэта ў Амэрыцы і ў Саюзе Радавых Рэспублік і інш. А то-ж прост сьмех! Губі народ свае здароўе, а ўжо самаурады пастараюцца нарыхтаваць тваё лячэньне ў публічных шпіталях! Якія самаўрады, дзе яны? Гэта-ж да апошняга часу ў мэтах палітычных тая-ж самая правіца ніяк не дапускае да апрацаваньня Соймам закону аб самаўрадах. А калі і істнуюць гмінныя самаўрады ды дзене-дзе соймікі павятовыя, дык ці-ж можна назваць іх самаўрадамі? Усім вядома, як яны — гэтыя самаўрады—„выбіраліся“,—воля старасты ў большай частцы паветаў брала верх над усім. Самы галоўны элемэнт „выбараў“ выяўляўся ў назначэньнях з боку старасты пажаданых яму людзей. Наваградчына зьяўляецца гэтаму найлепшым прыкладам, бо там самае слова „выбары самаўрадаў“ выклікае альбо зьдзіўленьне, альбо прост сьмех.

I гэткія самаўрады маюць апякавацца наагул аховай народнага здароўя. Добрая будзе ахова! А між тым з 1 студзеня 24 году маюць быць спынены ўсе крэдыты з Скарбу на падтрыманьне шпітальніцтва. Як-жа тады з усім гэтым справяцца самаўрады, калі нідзе дагэтуль няма соймаў вояводзкіх, хоць бы нават зарганізаваных на манер эрзац, самаўрадаў гмінных і павятовых. Пажывем—пабачым. **М.**

**Ці споўнілі Вы свой абавязак адносна Цэнтр. Беларускай Школьнай Рады? Ці заплацілі Вы належачую ад Вас грашовую складку за гэты месяц?**

# Пісьмо з Латвіі.

У маім апошнім пісьме я зазначаў, што беларуская справа ў Латвіі коціцца да страшнага катастрафічнага канца.

Што робіць Кіраўнік Беларускага Адзелу гр. Сахараў для таго каб „ратаваць“ яе, лепш за усё можа расказаць гэтакая праўераная мною заметка ў газ. „Рижскій Курьеръ“ ад 6/XII № 869 аб паседжаньні Прасьветнай Камісіі Латыскага Сойму:

„Выкладовая мова ў большасьці беларускіх школаў—расейская, бо самі вучыцялі ня ведаюць беларускай мовы. Прадстаўнік беларускага аддзелу тлумачыў гэта гістарычна-злажыўшыміся варункамі.

Гайліт (б. мініст. прасьветы) адказаў на гэта, што гэткае ненармальнае зьявішча нельга тлумачыць толькі гістарычнымі варункамі. Латышы ў працягу 700 гадоў знаходзіліся пад уладай і ўплывамі розных дужых народаў, але роднае мовы не забыў ніводзін латыш. На пытаньне Гайліта, колькі ёсьць гэткіх вучыцялёў, якія маглі-б выкладаць у роднай беларускай мове, прадстаўнік аддзелу адказаць ня мог...

Брэдіс (сял. саюз) рэзка крытыкаваў беларускі аддзел...

На чарговае паседжаньне пастаноўлена заклікаць самога начальніка беларускага аддзелу, дзеля таго што бышўшы дзелавод быў сам дрэнна паінфармаваны шмат па якім пытаньням“.

Вось зьмест сухой кароткай газэтнай заметкі, але тут ёсьць у самым факце зьмест больш страшны.

Вырашыўшы да канца забіваць асінавы кол у магілу беларускай справы ў Латвіі, гр. Сахараў задумаў перад разглядам новага буджэту прадэманстраваць Сойму „testimonium paupertatis“ Беларускага Аддзелу, разумеючы, што па прадстаўнікам судзяць і аб справе.

I паказаў.

У той час, калі зазвычай ў гэткіх выпадках іншыя аддзелы меншасьцяў заўсёды пасылаюць у такія высокія ўстановы, як Сойм, свае лепшыя сілы, Кіраўнік Беларускага Аддзелу робіць іншае.

Маючы ў сваей канцэлярыі ўсімі паважаемага працаўніка латыша, гр. Сахараў замест яго пасылае ў Сойм захопленага старчым маразмам дзелавода Шчорса, адно імя якога зьяўляецца одіозным для усіх, апрача гр. Сахарава, Езавітава і „иже с ними“

Ня гледзячы на тое, што шмат разоў латышы зьвярталі ўвагу гр. Сахарава на кампрамітацыю Шчорсам беларускай справы (глядз. мой папярэдні ліст), ня гледзячы на тое, што яшчэ з мінулага году Школьная Рада Дзьвінскай Бел. Гімназіі афіцыяльна пратэставала проціў шкоднай дзеяльнасьці Шчорса, ня гледзячы на ўсё гэтае, гр. Сахараў ўвесь час лічыць яго сваёй правай рукою і раднікам, а гр. Езавітаў да сёньняшняга дня гарою стаіць за яго і бароніць.

Зразумела, гэта можна было-б тлумачыць тым, што гр. Шчорс зьяўляецца крэатураю гр. Езавітава, але падзеі апошніх месяцаў прыводзяць да іншых крыніц гэтага незразумелага падтрыманьня. Апошнія падзеі ясна паказываюць, што гр. Шчорс на кожны выпадак камусьці патрэбны, як чалавек, якога магчыма паслаць нанесьці беларускай справе ў Латвіі апошні ўдар, патрэбны таму, хто хоча ўмыць свае уласныя рукі.

I Шчорса ужо пасылаюць.

**Гуль.**

# Часы зьмяняюцца...

**(Гісторыя аднэй „патрыятычнай ахвяры“...)**

Калісьці, — але-ж зусім ня так ўжо даўно — бо толькі ў 1919 гаду — ўвесь Польскі Эпіскапат, — з самім Папскім Нунцыем Монсіньёрам Ratti на чале—агаласіў праз прадстаўніцтва Каталіцкага Касьцёла ў Устаноўчым Сойме Польскай Рэспублікі ўрачыстую дэкларацыю, у якой—ад імя ўсяго каталіцкага духавенства ў Польшчы—выразіў—у вельмі пекных і гарачых словах—патрыятычную і ахвярную гатоўнасьць аддаць усе зямельныя маемасьці Касьцёла таму ўкаханаму польскаму люду, які сваею крывёю ўмацаваў асабліва дарагую для прадстаўнікоў гэтага Касьцёла „Odrodzoną Ojczyznę“...

Ня ўсе ў Польшчы любяць успамінаць аб гэтай „гістарычный“ дэкларацыі, але ўсе добра памятаюць, якое вялікае і сьветлае ўражаньне зрабіў і ня толькі ў Польшчы гэты ахвярны, вялікадушны крок дэмакратычнага польскага духавенства, — як многа ён памог пайшоўшаму грамадой у войска працоўнаму польскаму сялянству — ціха і проста аддаваць сваё жыцьцё на аўтар новай Дэмакратычнай Польшчы...

Ад гэтага часу прайшло ўжо больш як 4 гады, і дагэтуль ня толькі са ўсяго патрыятычна-дэмакратычна-ахвярнага пафосу знамянітай зямельнай дэкларацыі Каталіцкага Эпіскапату ў Польшчы нічога—нічагусенькі ня перайшло ў жыцьцё, ня толькі каталіцкае духавенства ў Польшчы ня страціла ані воднай дзесяціны сваіх абшараў, але наадварот—яшчэ ў вялізарнай меры павялічыла свой аграрны фонд, адабраўшы—праўна ці няпраўна — вялікія зямельныя добра Праваслаўнай Царквы, ды йшчэ ня абмяжоўваецца й тым, а дамагаецца ад польскага гаспадарства, каб яно вярнула яму—ўва ўласнасьць Касьцёла, апрача таго і ўсе тыя гэт. зв. „падухоўныя“ зямельныя і іншыя маемасьці, якія калісьці былі касьцельнымі, але даўно ўжо, пераважна ў 1864 і 1866 г.г., былі сэкулярызаваны (перайшлі ува ўпаснасьць сьвецкай—гаспадарственай улады).

I вось — у выніку 5 гадовае працы „лявіцовых урадаў“ па правядзеньню зямельнай рэфомы і „ахвярнага пафосу“ каталіцкага духавенства Каталіцкі Касьцёл у Польшчы стаў найвялікшым абшарнікам у Краі, ахрысьціў сьвятым Крыжам усе найбольш рэакцыйныя, людажорчыя партыі Рэспублікі, зьвязаўшы імя Хрыста з імём прагавіта-жываеднай „Хіены“, і цяпер ужо, карыстаючы з усей палітычнай „коньюктуры“ у Польшчы, зусім адкрыта дамагаецца ад сучаснай урадовай „большасьці“ праўнага ўмацаваньня сваей „мёртвай рукі“—свайго фактычнага „stanu posiadania“

Вось як хутка „эволюцыяніруюць“ у Польшчы ахвярна-дэмакратычныя настроі...

Але—прыгледзімся да гэтай надта цікавай справы крыху бліжэй.

---

Вельмі характэрна, што ўжо тады спэцыяльна выбраная для рэалізацыі гэтай ахвярнай дэкларацыі, у паразуменьні з Соймам і ўрадам, „зямельная камісія біскупаў“— заместа гэтага паразуменьня—адразу пачала з соймавай камісіяй і урадам вельмі дасьціпную спрэчку, якая і „забагніла“ ўсю справу аж дагэтуль—на ўсе 4 гады...

З няўхільнай лёгікай, рабіўшай чэсьць іх акадэміцкай адукацыі, польскія біскупы заявілі ў камісіі, што Каталіцкі Касьцёл у Польшчы, які маральна адрокся ад сваіх земляў, ахвяраваўшы іх польскаму люду, можа праўна перадаць гэтую ахвяру дзяржаве толькі тады, калі „праціўная старана“—Польская Дзяржава ў асобе польскага ўраду напярод прызнае за Касьцёлам прынцыпова правы поўнай і неабмежаванай уласнасьці на гэтыя землі...

„Бо вясьці перагаворы аб ахвяраваньні таго, што не належыць да Касьцёлу,—і нелёгічна і не адпавядае годнасьці прадстаўнікоў апошняга“, спрытна даводзіла камісія біскупаў... Гэткі быў першы крок рэалізацыі ахвярнага ідэалізму прадстрўнікоў кліру ў камісіі.

Ўвесь спрыт гэтага „шахматнага ходу“ лёгка ацаніць, калі ўспомніць, што польскі ўрад ніколі ня прызнаваў за Касьцёлам якраз гэтых правоў уласнасьці, а лічыў усе гэтыя землі ўласнасьцю гаспадарства, якія толькі знаходзяцца ў валаданьні ці карыстаньні духавенства...

Як мы казалі, у першай-жа спробе гэтага „паразуменьня“ высьветлілася, што духавенства хоча за адным заходам скарыстаць з добрага прыпадку і змусіць дзяржаўную ўладу—прызнаць за Касьцёлам правы ўласнасьці ня толькі на „духоўныя“ нярухомасьці, але і на так зван. „падухоўныя землі“, якія хоць калі небудзь знаходзіся ў руках Касьцёла, але даўно перайшлі да гаспадарства...

З усяго гэтага мы бачым, што першым крокам рэалізацыі ахвярнага ідэалізму польскага духавенства зьявілася вельмі спрытная і практычная думка—умацаваць юрыдычна-бяспрэчна свае спорныя правы ўласнасьці на тыя самыя аграмадныя „грунты“, якія яно маральна ўжо быццам ахвяравала—на карысьць люду—дзяржаўнай уладзе Рэспублікі...

Дзеля чаго гэта ўсё рабілася, дакладна пабачым далей.

Цяпер мы толькі сьцьвердзім, што на гэтай „нявырашымай спорцы“ ўсё „паразуменьне“ сарвалося..., і што ні водзін з „людовых“ лявіцовых урадаў дагэтуль не знайшоў у сябе сьмеласьці, каб вырашыць гэтую справу без „паразуменьня“ з духавенствам...

Ахвярныя прадстаўнікі польскага кліру таксама не сьпяшыліся, слушна і спрытна чакаючы „лепшых часоў“...

Незаводна-практычна—земскі спрыт аднак ледзь не ашукаў служыцеляў „Królewstwa Niebieskiego“...

На падставе вядомага „пакту“ паміж Хьенай і Пястам, як гэта ня дзіўна, — сучасны правіцовы ўрад „хрысьціянскай і польскай большасьці“ ўнёс у Сойм праект, па якому на патрэбы парцэляцыі і асадніцтва перадаюцца, пасьля маёнткаў гаспадарственых, і ўсе „зямельныя маемасьці гэтак зван. „мёртвай рукі“ — гэта значыць, іменна „духоўныя, біскупскія, кляшторныя, плебанскія, касьцёльныя“ і інш. землі... Пры тым аб „паразуменьні“ з камісіяй біскупаў у праекце зусім няма мовы, а ёсьць абяцанка дагаварыцца з Апостальскай Сталіцай аб пэнсіі ці „справядлівай заплаце“ духавенству з дзяржаўнага скарбу ў замен за іх зямельныя ўжыткі, як гэта і мелася на воку ў 1919 г.

Эндэкі разам з Пястам—проці сваіх калегаў па Хьене, „хрысьціянаў“-абшарнікаў,— пры падтрыманьні лявіцы, правялі праз камісію амаль не цалком гэты „працівакасьцельны“ праект, што амаль не разьбіў

